НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
ДЗЯРЖАЎНАЯ НАВУКОВАЯ ЎСТАНОВА
ІНСТЫТУТ ГІСТОРЫІ

# ВІЗІТЫ УНІЯЦКІХ ЦЭРКВАЎ МІНСКАГА І НАВАГРУДСКАГА САБОРАЎ 1680–1682 гг.

*зборнік дакументаў*

*апрацаваў і выдаў* ***Дзяніс Васільевіч Лісейчыкаў***

Мінск
2009

УДК 930.25:271.4(476) “1680/1682”
ББК 79.3 (4Беи)+86.37 (4Беи)
В42

Праца выканана ў рамках Дзяржаўнай комплекснай праграмы навуковых даследаванняў на 2006–2010 гг. «Гісторыя беларускай нацыі, дзяржаўнасці і культуры» (навуковы кіраўнік праграмы доктар гістарычных навук, прафесар А.А. Каваленя).

Рэкамендавана да друку Вучоным саветам Інстытута гісторыі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі

**Складальнік:** Д.В. Лісейчыкаў

**Рэцэнзенты:** доктар гістарычных навук В. А. Фядосік,
кандыдат гістарычных навук В. В. Яноўская

**М** **Візіты уніяцкіх цэркваў Мінскага і Навагрудскага сабораў 1680–1682 гг.: Зб. дак-таў** / Склад. Д.В. Лісейчыкаў. – Мінск.: І.П. Логвінаў, 2009. – с., 270 с.: іл.

ISBN 978-985-6901-23-5

У зборніку прадстаўлены візіты уніяцкіх цэркваў Мінскага і Навагрудскага сабораў 1680–1682 гг. з фондаў Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі. У іх маюцца апісанні 212 цэркваў і 104 капліц у розных паветах Вялікага княства Літоўскага. Сетка звізітаваных парафій ахоплівае звыш 1400 населеных пунктаў.
Кніга адрасавана гісторыкам, архівістам, краязнаўцам і усім, хто цікавіцца пытаннямі рэлігіязнаўства і гісторыі Беларусі.

УДК 930.25:271.4(476) “1680/1682”
ББК 79.3 (4Беи)+86.37 (4Беи)

**ISBN** 978-985-6901-23-5




# ЗМЕСТ

# 1. УВОДЗІНЫ
## 1.1. Прадмова

У апошнія два дзесяцігоддзі актывізацыі духоўнага жыцця беларускага грамадства значна ўзрасла цікавасць да канфесійнай гісторыі, у тым ліку гісторыі уніяцкай царквы. У гады панавання ў савецкай гістарыяграфіі навуковага атэізму сфера рэлігіі заставалася практычна па-за ўвагай, а фонды духоўных устаноў, што захоўваліся ў гістарычных архівах Беларусі, амаль не падлягалі навуковай распрацоўцы. Працэсы перабудовы ў апошнія гады існавання Савецкага Саюза і атрыманне Рэспублікай Беларусь дзяржаўнага суверэнітэту актывізавалі навуковыя доследы ў гэтай галіне. З'явілася вялікая колькасць прац па гісторыі уніяцтва на Беларусі. Аднак шэраг разглядаемых у іх пытанняў даволі невялікі: перадумовы заключэння Брэсцкай уніі 1596 г., біяграфіі вышэйшых царкоўных іерархаў, рэлігійная палеміка першай паловы XVII ст., роля уніяцтва ў захаванні традыцый усходнеславянскай культуры, падрыхтоўка да скасавання уніі на беларуска-літоўскіх землях у 30-я гг. XIX ст.

Характар найбольш выкарыстоўваемых крыніц, сярод якіх пераважаюць заканадаўчыя і іншыя рэгламентуючыя акты, не даваў магчымасці даследчыкам пашырыць кола разглядаемых пытанняў. Запаўненне існуючых «белых плямаў», як слушна адзначыў украінскі гісторык царквы І. Скачыляс, адбываецца пераважна ў дыскурсе гісторыі падзей[1]. Па-за ўвагай застаюцца структуры царкоўнай штодзённасці, асвятліць якую «традыцыйныя» крыніцы не ў стане. Да таго ж вельмі карысным падаецца ўвядзенне ў навуковы ўжытак новых архіўных дакументаў, кола якіх у пераважнай большасці сённяшніх даследчыкаў канфесійнай гісторыі абмяжоўваецца археаграфічнымі выданнямі канца XIX – пачатку XX ст.

Візіты з'яўляюцца выключна інфарматыўнай крыніцай для вывучэння не толькі канфесійнай, але і эканамічнай гісторыі, генеалогіі, тапанімікі, яны змяшчаюць неацэнны матэрыял для даследчыкаў гісторыі штодзённасці і краязнаўцаў[2].

[1] Скочиляс І. Генеральні візитації Київської унійної митрополії XVII–XVIII століть. Львівсько-Галицько-Кам'янецька єпархія. Т. 2: Протоколи генеральних візитацій. Львів: Видавництво Українського Католицького Університету, 2004. – С. XV.

[2] Больш падрабязную характарыстыку гэтага віда архіўных крыніц гл. у нашым артыкуле: Лісейчыкаў Дз. В. Візіты і інвентары уніяцкіх храмаў Беларусі як крыніца па гісторыі штодзённасці (паводле матэрыялаў НГАБ) // Беларускі археаграфічны штогоднік. Вып. 6. / Рэд. калегія: У. К. Коршук (гал. рэд.) і інш. – Мн.: БелНДІДАС, 2005. – С. 94–101.



Першую грунтоўную спробу публікацыі візітаў уніяцкіх храмаў у пачатку XX ст. здзейсніла кіраўніцтва Віленскай навучальнай акругі. У 1902–1904 гг. былі апрацаваны і выдадзены візіты 58 уніяцкіх цэркваў Навагрудскага і Цырынскага дэканатаў 1798 г. з фондаў рукапіснага аддзела Віленскай публічнай бібліятэкі[3]. На жаль, археаграфічная апрацоўка дакументаў пакідае жадаць лепшага (асабліва гэта тычыцца візітаў Цырынскага дэканата, якія апрацоўваў Ю. Крачкоўскі). У наяўнасці вялікая колькасць памылак у напісанні асабовых імёнаў і геаграфічных пунктаў. Апрацаваныя З. Даўгялам візіты Навагрудскага дэканата пакідаюць лепшае ўражанне. Заслугоўвае ўвагі таксама складзеная З. Даўгялам грунтоўная прадмова да публікуемага тэкста.

На нашу думку, кіраўніцтва Віленскай навучальнай акругі невыпадкова спыніла свой выбар менавіта на гэтых візітах. Паколькі галоўнай мэтай выдання «Археографических сборников» былі змаганне з польскім уплывам, то матэрыял візітаў Навагрудскага і Цырынскага дэканатаў 1798 г. з'яўляўся адной з найбольш яскравых ілюстрацый пранікнення ва ўсе сферы жыцця уніяцкай царквы польска-каталіцкіх традыцый і норм. Цэрквы Цырынскага дэканата ўвогуле былі аднымі з самых занядбаных і бедных у эканамічным плане, а святары адрозніваліся нізкім узроўнем адукацыі (гэтага нельга сказаць, да прыкладу, аб суседніх Слонімскім і Нясвіжскім дэканатах). Між тым, значна больш цікавыя, поўныя і раннія візіты, якія меліся ў распараджэнні публікатараў, было вырашана не выдаваць.

Іншых сур'ёзных спробаў апрацоўкі і публікацыі візітаў уніяцкіх храмаў не назіралася амаль да канца XX ст. Аднак з пачатку 90-х гг. XX ст. пачала праяўляцца ўсё большая ўвага да гэтага цікавага віду гістарычных крыніц. Польскімі і ўкраінскімі навукоўцамі былі адноўлены захады па комплекснай апрацоўцы і выданні вялікай колькасці візітаў. Да ліку найбольш грунтоўных выданняў у гэтай галіне можна аднесці працы І. Скачыляса і М. Радвана[4]. І. Скачылясам, апрача іншага, была распрацавана метадалагічная база вядзення падобнай работы. У прыватнасці, ім акрэслены асноўныя пункты,

[3] Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси, издаваемый при Управлении Виленскаго Учебнаго Округа. – Т. XIII. Вильна: Типография А. Г. Сыркина, 1902. – С. 154–235; То же. Т. XIV. – Вильна, 1904. – С. 56–125.

[4] Скочиляс І. Генеральні візитації Київської унійної митрополії XVIIXVIII століть. Львівсько-Галицько-Кам'янецька єпархія. Т. 2: Протоколи генеральних візитацій. Львів: Видавництво Українського Католицького Університету, 2004. – CCVIII+512 с.; Wizytacje generalne parafii unickich w województwie Kijowskim i Bracławskim po 1782 roku. Opracował i wydał Marian Radwan. Lublin: Towarzystwo Naukowe KUL, 2004. – 912 s.

якія павінны прысутнічаць пры апісанні візіты: арыгінальная назва, дата, мова, матэрыялы і тэхніка выканання, аздабленне, аправа, змест, правеніенцыі (адзнакі аб паходжанні), аўтографы, паходжанне, стан захавання, інскрыпцыі. У сваіх працах І. Скачыляс абапіраецца на досвед заходнееўрапейскіх гісторыкаў, якія маюць вялікі вопыт у выданні візітаў каталіцкіх касцёлаў. Сістэматычную публікацыю візітаў беларускіх уніяцкіх храмаў распачала польская даследчыца І. Вадзяноўская[5]. У нарысах краязнаўчага характара пачалі з'яўляцца публікацыі тэксту асобных візітаў (напрыклад, публікацыі Г. Брэгера ў шматтомным краязнаўчым выданні кніг «Памяці»[6], а таксама артыкулы А. Цвіркі і З. Яцкевіча[7]). Акрамя гэтага, публікацыю даволі вялікай колькасці візітаў беларускіх храмаў ажыццявілі А. Гіль[8] і У. Свяжынскі[9].

Бадай, самым істотным недахопам усіх пералічаных прац (за выключэннем публікацый І. Скачыляса) з'яўляецца практычна поўная адсутнасць каментарыяў і навукова-даведачнага апарата, што значна ўскладняе пошук інфармацыі ў візітах і расшыфроўку незразумелых скарачэнняў і спецыфічных тэрмінаў. У выпадку з 1000-старонкавым выданнем М. Радвана, не забяспечаным паказальнікамі, эфектыўны пошук інфармацыі робіцца практычна немагчымым. Да таго ж бывае цяжка патлумачыць матывацыю выбару даследчыкамі тых ці іншых візітаў у якасці аб'екта апрацоўкі (за выключэннем ідэалагічна абгрунтаваных матываў кіраўніцтва Віленскай навучальнай акругі пачатку XX ст.).

Прадстаўленыя ў дадзеным зборніку візіты уніяцкіх цэркваў Мінскага і Навагрудскага събораў Кіеўска-Віленскай епархіі 1680–1682 гг. з'яўляюцца першымі масавымі пісьмова занатаванымі дакументамі ў сваім родзе, што захаваліся да нашага часу. Яны ахопліваюць вялікую тэрыторыю (13 пратапопій), маюць апісанні

[5] Greckokatolickie dekanaty błoński i puchowicki w latach 1783–1784. Wstęp i opracowanie Irena Wodzianowska. Sandomierz, 2006. – 292 s.

[6] Брэгер Г. М. Візіта Азарыцкай уніяцкай парафіяльнай царквы; Ён жа. Генеральная візіта Каленкавіцкай уніяцкай царквы // Памяць. Гіст.-дакум. хроніка Калінкавіцкага р-на. Мн.: Ураджай, 1999. С. 60–63; Ён жа. Візіта Маламажэйкаўскай парафіяльнай уніяцкай царквы // Памяць. Гіст.-дакум. хроніка Шчучынскага р-на. Мн.: БелЭн, 2001. С. 60–61.

[7] Цвірка А. А., Яцкевіч З. Л. Візіты Заслаўскай уніяцкай царквы Праабражэння Гасподня за 1681, 1792 гг. // Беларускі археаграфічны штогоднік. Вып. 6 / Рэд. калегія: У. К. Коршук (гал. рэд.) і інш. – Мн.: БелНДІДАС, 2005. – С. 230–246.

[8] Gil A. Unickie cerkwie Brześcia w opisie wizytacyjnym z 1726 roku // Rocznik Instytutu Europy Środkowo-Wschodniej. Rok (4) 2006. – S. 25–51.

[9] Хроніка Убарцкага Палесся / Аўтар-укладальнік А. І. Атнагулаў. – Мн.: Тэхналогія, 2001. – С. 82–108, 116–123.



цэркваў амаль усіх цэнтральных і часткова заходніх і ўсходніх беларускіх земляў. Інфармацыя, якая ўтрымліваецца ў візітах, дазваляе не проста праілюстраваць асаблівасці рэлігійнага жыцця ў пэўнай мясцовасці, а дае магчымасць уявіць агульную карціну стану уніяцкай царквы ў ВКЛ ў канцы XVII ст. і асаблівасцей міжканфесійных адносін таго часу. Менавіта таму, на нашу думку, распачынаць працу па апрацоўцы і выданні гэтага выключна цікавага віда крыніц неабходна з візітаў 1680–1682 гг.

## 1.2. Агульныя знешнія і ўнутраныя прыкметы рукапісу[10]

Візіты уніяцкіх цэркваў Мінскага і Навагрудскага събораў Кіеўска-Віленскай епархіі 1680–1682 гг. захоўваюцца ў НГАБ у фондзе № 136 («Мінская праваслаўная духоўная кансісторыя»), вопіс № 1, адзінка захавання № 42042.

Рукапіс пераплецены. Крышкі пераплёту зроблены з кардона. Іх памер 31,3×20,5×0,1 см. Крышкі выходзяць за блок на 0,4–1,4 см. Спінка выраблена з дэрмаціну цёмна-чырвонага колеру, яе таўшчыня складае каля 3 см. Гэта вынік праведзеных у лютым-траўні 1997 г. рэстаўрацыйных і пераплётных работ.

Колер паперы – ад белага да светла-карычневага з мноствам пацёртасцей і плямаў. Аб'ём – 109 аркушаў. Усе аркушы маюць філіграні ў выглядзе лацінскай манаграмы «CBR», аблямаванай дзвюма перакрыжаванымі і перавязанымі галінкамі, зверху – карона (гл. Ілюстрацыю 2). Яны дазваляюць вызначыць, што папера была выраблена на Слонімскай паперні ў 1677 г.[11]

У справе маецца старая вокладка (20-я гг. XX ст.). Яна ўяўляе сабой аркуш шчыльнай паперы жаўтаватага колеру памерамі 18×29,5 см. На ёй маюцца тры простакутныя атрамантавыя пячаткі фіялетавага колеру з наступнымі легендамі: першая *«Менскае аддзяленне Дзяржархіваў СССР Ф. № 70 Інв. № 42042 зв. № ___»*[12], дзве астатнія *«Цэнтральный*

[10] Фрагменты дадзенага падраздзела і папярэднія вынікі апрацоўкі візітаў былі надрукаваны ў нашым артыкуле ў 5-м выпуску «Rocznika Instytutu Europy Środkowo-Wschodniej». Гл.: Лісейчыкаў Дз. В. Пратаколы генеральнай візітацыі уніяцкіх цэркваў Кіеўска-Віленскай епархіі 1680–1682 гг. у фондах НГАБ // Rocznik Instytuty Europy Środkowo-Wschodniej. Red. J. Kłoczowski, A. Gil. Rok (5) 2007. Lublin. – S. 123–138.

[11] Лауцявичус Э. Бумага в Литве в XV – XVIII вв. Атлас. Вильнюс: Минтис, 1967. – С. 464.

[12] Зроблена, відавочна, паміж 1933 і 1938 гг. Гэта пацвярджаюць асаблівасці арфаграфіі: слова «аддзяленне» напісана паводле рэфармаванага беларускага правапісу 1933 г., а ў слове

*Государственный исторический архив в г. Минске. № фонда 136. № описи 1. № ед. хр. 42042»*[13]. На вокладцы маюцца надпісы атрамантаванай асадкай фіялетавага колеру: *«Минская Духовная Консистория | Визиты церквей: Минской, | Бобруйской, Новогрудской | и Нивенской за 1681 год»*, шарыкавай ручкай чорнага колеру: *«Клецкой, | Несвижской, | Циринской протопопий»*, шарыкавай ручкай сіняга колеру: *«Борисовской, | Логойской, | Долгиновской, Завилейской (Кри|вичи)»*.

Паводле старога рукапіснага вопісу, складзенага 26 лютага 1938 г., назва адзінкі захоўвання з'яўляецца наступнай: «Визиты церквей: Минской, Бобруйской, Новогрудской и Нивенской за 1681 г.» Назва вельмі павярхоўная і нават недакладная – невядома што за «Нівенскую» царкву меў на ўвазе складальнік. На самой жа справе дакументы адрозніваюцца як паводле даты складання, так і паводле паўнаты інфармацыі. Яны ўяўляюць сабой візіты уніяцкіх цэркваў Мінскага і Навагрудскага сабораў[14] (у складзе першага – Бабруйская, Барысаўская, Блонская, Даўгінаўская, Ігуменская, Лагойская, Мінская, Мядзельская і Пухавіцкая пратапопіі, у складзе другога – Клецкая, Навагрудская, Нясвіжская і Цырынская пратапопіі). Візіты Навагрудскага сабору і Бабруйскай пратапопіі – чыставыя, а астатнія восем пратапопій Мінскага сабору – чарнавыя. І тыя, і другія складзены некалькімі пісарамі. Намі былі ідэнтыфікаваны пяць розных почыркаў (гл. Ілюстрацыі 3.1–3.5):

**Почырк № 1**. Арк. 1 адв.

**Почырк № 2**. Арк. 2–14 адв., 15 адв.–16, 18–24 адв., 25адв.–27, 27 адв.–31 адв., 32 адв.–33, 34–34 адв., 35 адв., 38–39, 41 адв.–43, 44–44 адв.

**Почырк № 3**. Арк. 15–15 адв., 16–17, 25–25 адв., 27–27 адв., 32–32 адв., 35, 36–37, 38, 39–40 адв., 43 адв.–44, 44 адв.–45 адв.

**Почырк № 4**. Арк. 33–34, 37 адв.

**Почырк № 5**. Арк. 45 адв.–46, 47–107 адв.

Зрэшты, з прычыны выцвітання атраманту дакладная колькасць почыркаў не можа быць устаноўленай канчаткова.

Візіты складзены на польскай мове з невялікім працэнтам царкоўнаславянскіх словаў і беларусізмаў. Царкоўнаславянская лексіка ў сваёй большасці абмяжоўваецца назвамі літургічнага начыння і

«Менскае» ўжыта форма напісання сталіцы Беларусі (Менск), якая існавала да 1938 г.

[13] Зроблена не раней за 1963 г., паколькі ў гэтым годзе ЦДГА БССР быў пераведзены з г. Магілёва ў г. Мінск.

[14] *Сабор* – старабеларускі адпаведнік каталіцкага тэрміну *афіцыялат* – адміністратыўна-тэрытарыяльнай адзінкі, якая аб'ядноўвала некалькі пратапопій (у традыцыях Заходняй царквы – дэканатаў).



некаторых царкоўных святаў, але нават яны падаюцца з заўважным уплывам беларускага маўлення – *potrachil* замест *epitrachil*, *nałoy* замест *anałoy* і інш. Трапляюцца і беларускія лексемы: (напрыклад, *swieszczennik* альбо *ociec* замест *kapłan*/*oyciec,* а таксама *iaszczyczek/ jaszczyczek, Nierukotworenny Obraz, Uspienie, płaszczenica, Swiataia Swiatych, stanowlenie, hramota, zertownik (zartownik), Rożestwo Preswiatoi Bohorodzicy* і інш. Можна адзначыць цікавую асаблівасць – мінскі візітатар ведаў польскую мову горш за навагрудскага. Так, ён паўсюдна ўжывае тэрміны *Naswięszy*, *Ewanelia*, *w pusce* замест правільных польскіх *Nayświętszy*, *Ewangelia*, *w puszce*. Да таго ж спалучэнне літар *on* ён паўсюдна намагаецца перадаць «больш польскай» літарай *ą*, а спалучэнні *en* адпаведна літарай *ę*. Атрымаліся такія наватворы як *korąka*, *zapąka*, *documęty*, *antepędium*.

Напісанне імёнаў парохаў у дакументах лацінізавана слаба – досыць рэдка сустракаюцца лацінскія варыянты царкоўнаславянскіх імёнаў *Euseby* (Яўсей), *Teophil* (Феафіл). Амаль паўсюдна сустракаюцца «ўсходнія» імёны – *Pachomiy*, *Jerofiey*, *Ewstafiy/Eustachi*, *Artemi*. Паралельна з *Teodor/Theodor* фігуруе *Fiedor*, з *Bazyli – Wasiley,* з *Tymoteusz – Timofiey* і інш. Назвы ж населеных пунктаў падаюцца, як правіла, па-беларуску (*Apimachi*, *Rapiechi*, *Hanczary*, *Horawiec*, – яскрава праяўляецца прынцып акання, выкарыстання фрыкатыўнага «г», «г» выбухное выкарыстоўваецца хіба ў назвах балцкага паходжання – *Gierwiele*, *Girduciszki*, *Goyzowo*). На некаторых аркушах візітаў Навагрудскага сабору маюцца інскрыпцыі сярэдзіны XVIII ст., дзе канцылярыст зрабіў надрадковы пераклад незразумелага яму царкоўнаславянскага і беларускага тэрміна *протопопия*, замяніўшы польскім *dziekania.*

Адзіны дакумент у справе, які складзены на «рускай» мове – копія ўказа ад 2 верасня 1681 г. аб пачатку правядзення візітацыі цэркваў Мінскага сабору. Тут цяжка вызначыць адметнасці, паводле якіх мову можна аднесці да т.зв. «старабеларускай» ці «стараўкраінскай», але мы больш схіляемся да другога варыянту, паколькі ў адзінкавых словах заўважна схільнасць да выкарыстання літары *и* – *мисто*, *опитати*.

Трэба адзначыць, што тэкст візітаў падаецца не адзіным масівам, а ў пяці блоках накшталт табліцы, якую ўтвараюць вертыкальныя лініі, зробленыя тым жа атрамантам, што і сам тэкст. Гэта выглядае наступным чынам.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| *1.* | *2.* | *3.* | *4.* | *5.* |

У слупку 1 фіксуецца колькасць святароў шляхам прысваення ім своеасаблівых парадкавых нумароў. Гэты слупок запоўнены амаль

выключна па Навагрудскім саборы і Бабруйскай пратапопіі. У некаторых месцах ён мае калантытул *Kapłani*. (Гл. ніжэй). Пры перадачы тэкста мы вынеслі інфармацыю з гэтага слупка ў агульны тэкставы масіў. У слупку 2 падаецца асноўны тэкст візіты. Па Навагрудскім саборы і Бабруйскай пратапопіі тэкст візіты адной царквы аддзелены ад тэксту наступнай візіты гарызантальнай лініяй. У слупках 3, 4, 5 фіксуецца колькасць цэркваў, душ і капліц адпаведна, месцамі гэтыя слупкі маюць калантытулы *Cerkwi* | *Dusz* | *Kaplic* (Гл. ніжэй). Пры перадачы тэкста адзнакі аб цэрквах і капліцах (якія рабіліся ў выглядзе лічбы «1» у 3-м, 4-м альбо 5-м слупку) мы проста апускалі, а колькасць душ вернікаў са слупка 4 мы палічылі мэтазгодным падаць у агульным масіве тэкста.

У тэксце візітаў маюцца шматлікія інскрыпцыі. Тыя з іх, што тычацца непасрэдна тэксту візіты (такія як удакладненні ва ўнутраным убранстве царквы, новапрыдбаныя прадметы) мы змясцілі ў тэксце, выдзеліўшы іх *курсівам*. У такім разе пазначаўся характар інскрыпцыі – колер атраманту, месца занатоўкі: паверх тэкста, на палях і інш. Апрача гэтага, некаторыя інскрыпцыі носяць прыкметы інфармацыйна-пошукавага апарата (складзены не раней за пачатак XVIII ст.). Яны кепска стасуюцца з асноўным тэкстам візітаў, таму, каб пазбегнуць блытаніны, мы палічылі мэтазгодным пералічыць іх у прадмове і падаць нумары аркушаў, на якіх знаходзяцца падобнага кшталту інскрыпцыі. Гэты пералік выглядае наступным чынам:

*1681 7bra m(iesią)ca* | *dnia* 2 – у ніжнім правым куце на аркушы 1 адв.

*Cerkwi* | *Dusz* | *Kaplic* – у верхнім правым куце (вертыкальна) 2 адв., 3 адв., 4 адв., 5 адв., 6 адв., 7, 7 адв., 10–14, 18, 27, 52, 53 адв., 54.

*Cyrynski* – уверсе 72, 74, 75, 76, 77, 78, 81, 82, 83, 84, 85.

~~*Cyrynski*~~ – уверсе 87.

~~*Cyrynski*~~ *Nieswiski* – уверсе 88.

*Decanat Cyrynski* – уверсе 72 адв.–73.

*Dziekania* – уверсе 107 адв.

*Dziekania Klecka* – уверсе 102 адв.–103, 103 адв.–104, 104 адв.–105.

*Kapłani* – у верхнім левым куце (вертыкальна) на аркушах 52, 53 адв., 54.

*Minska protopopia* – уверсе 2.

*Nieswiski* – уверсе 86 адв., 89, 90, 92, 95, 97, 99.

*Nieswiski* ~~*Cyrynski*~~ – уверсе 86.

*Nowogrodzka* – уверсе 52 адв., 53, 54, 55, 56, 57, 58, 59, 60, 61, 62, 63, 64, 65, 66, 67, 68, 69.



*Protopopia puchowicka* – уверсе 36.

На адваротным баку указа Ц. Жахоўскага (арк. 1) маюцца чарнавыя запісы XVIII ст. гаспадарчага характара. Іх змест не мае дачынення да візітаў. Як вынікае са зместу, яны зроблены парафіяльным святаром, у архіве якога на той час знаходзіліся візіты. Гэта занатоўкі аб нарыхтоўках збожжа, аб хрышчэнні немаўлятаў і блаславленні шлюбаў. Змест іх наступны:

*Jęczmienia kop 28, snopow 2.* | *Item społu kop 2, snopow 12.* | *Item jęczmienia kop 9, snopow 23.* | *Item jęczmieniu kop 5, snopow 5.* | *In uniwersum (...) facit kop 44, snopow 43.* | *Żyta w stronie 22 augusta kop 6.* | *Wstępuie w stan swięty małżeński* | *Adam Horbaczewicz z Łydczyc z Ewą* | *Kondraciukowną zapowiedz. 12 d(nia) 3.* | *Tego z roku m(ie)s(ią)ca junia (...) dnia ochrzczony Michał* | *urodzony z Jana Kota y matki Theodory (...),* | *bywszey w pierszym małżeństwie (...)* | *(...) teraznieyszey Janowey Kotowey. Kumem* | *był Antoni Aysak. Kumą Theodora Janowa Dzier|nowiczowa. Wszyscy z Niehniewicz.* | *Wstępuie w stan swięty małżeński Siemion (...)* | *z Choroscycy* | *z Hannusią (...)ską zapowiedz(...)* |

Назвы населеных пунктаў (Лычыцы, Нягневічы, Харосіца), якія ўзгадваюцца ў гэтых інскрыпцыях, сведчаць аб тым, што ў XVIII ст. візіты знаходзіліся пры царкве в. Нягневічы Навагрудскага пав. (у склад парафіі якой уваходзілі ўсе згаданыя населеныя пункты). Такія высновы ўскосна пацвярджае і той факт, што з 20 студзеня 1723 г. і да сярэдзіны 50-х гг. XVIII ст. нягневіцкім парохам з'яўляўся навагрудскі дэкан Сымон Галоўчыц[15]. Як вядома, пры дэкане захоўваўся дэканацкі архіў. Цалкам верагодна, што большасць інскрыпцый XVIII ст. зроблены менавіта Галоўчыцам.

Інскрыпцыі, магчыма, былі і на некаторых іншых аркушах, але ў выніку няўдала праведзенай у 1997 г. рэстаўрацыі яны былі страчаны падчас абрэзкі краёў паперы.

У афармленні візітаў прысутнічаюць некаторыя элементы мастацкага аздаблення: Буквіцы *P* і *M* у словаспалучэнні *Protopopa Minski*, а таксама *P* у слове *Przewielebny* (арк. 2).

У напісанні некаторых загалоўкаў выкарыстаны вялікія, тлуста абведзеныя літары: *Protopopia Bobruyska* (арк. 47); *Proto(po)pia Cyrynska* (арк. 70).; *Protopopia Nieswiska* (арк. 85 адв.); *Protopopia Klecka* (арк. 100).

[15] НГАБ. – Ф. 1502. – Воп. 1. – Спр. 13. – Арк. 22 адв.

## 1.3. Перадумовы правядзення генеральнай візітацыі 1680–1682 гг.

Як вынікае з першых радкоў дакумента, асобай, што ініцыявала правядзенне візітацыі, з'яўляецца мітрапаліт Цыпрыян Жахоўскі (гл. Ілюстрацыю 1).

Варта адзначыць, што з самага пачатку здабыцця мітрапаліцкай пасады Ц. Жахоўскі (1674 г.) прыкладаў намаганні па вызначэнні колькасці падуладнай паствы і парохаў. Прычыны для гэтага былі самыя важкія – у 1654 г. у часе першага этапу вайны Маскоўскай дзяржавы з Рэччу Паспалітай большая частка архіва уніяцкіх мітрапалітаў, які на той час захоўваўся ў Полацку, была знішчана маскоўскімі войскамі. У 1655 г. працу па аднаўленні страчаных дакументаў распачаў тагачасны мітрапаліт Антон Сялява, але ў хуткім часе ён памёр. У 1669 г. гэтыя захады аднавіў новы мітрапаліт Габрыэль Календа[16]. Але невядома, ці далі яго высілкі нейкі плён, бо ў 1674 г. памёр і Г. Календа.

Улетку 1674 г. была здзейснена няўдалая спроба візітавання цэркваў Пінска-Тураўскай епархіі. У ролі візітатара тады выступіў Пінска-Тураўскі епіскап Міхал-Марцыян Белазор. Плён быў мізэрны – праваслаўнае насельніцтва проста не пусціла епіскапа да цэркваў. У 1676 г. было прынята кампраміснае рашэнне – замест візітацыі епіскап накіраваў свайго ўпаўнаважанага Пятра Курцiловiча, пінскага пратапопа, з мэтай падліку святароў, што захавалі вернасць уніі. Вынікі для Ц. Жахоўскага і М.-М. Белазора аказаліся кепскімі. Паслушэнства уніяцкаму мітрапаліту выказалі 86 святароў, сярод іх толькі адзін пратапоп – сам П. Курціловіч[17]. Паводле нашых падлікаў Пінска-Тураўская епархія на мяжы XVII–XVIII ст. складалася з 13 пратапопіяў: 10 – у Пінскай частцы і 3 – у Тураўскай. Да таго ж П. Курціловіч не пазначыў, які працэнт сярод названых святароў складалі бязмесцавыя, а таксама вікарыі. Так што колькасць уніяцкіх парафій на Піншчыне павінна была быць меншай за колькасць святароў. Трохі раней, у 1672 г., М.-М. Белазор так апісваў становішча уніяцкай царквы на Піншчыне: «Вялікая шкода царкве Божай робіцца, і ўзнаўляюцца норавы горшыя за паганскія … Не ходзіце ў нядзельныя і святочныя дні на набажэнства і Божую службу, хоць у гарадах і вёсках вашых маеце цэрквы, пастаўленыя

[16] НГАБ. – Ф. 1730. – Воп. 1. – Спр. 38. – Арк. 1670–1670 адв.

[17] Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси, издаваемый при управлении Виленскаго Учебнаго Округа. Т. VI. Вильна: Печатня О. Блюмовича, 1869. – С. 353–354.



вашымі продкамі … А іншы ходзіць у схізматыцкія цэрквы, пакідаючы святое адзінства, сваіх святароў і епіскапаў»[18].

Дзеля вырашэння спрэчных пытанняў і для пошукаў паразумення ў студзені 1680 г. у г. Любліне з ініцыятывы Ц. Жахоўскага адбыўся сумесны сабор іерархаў уніяцкай і праваслаўнай цэркваў. Плён ад гэтага мерапрыемства аднак быў невялікім і практычных вынікаў т. зв. «Люблінскі калёквіум» не прынёс. Паводле словаў самога Ц. Жахоўскага, «быў выдатны статак авечак, але не схацеў увайсці ў авечы двор вярхоўнага рымскага пастыра і з'яднацца з тымі, хто слухае яго голас і не столькі баіцца яго, колькі любіць… Святое Адзінства вяртаецца дахаты»[19]. Між іншым, Ц. Жахоўскі падрыхтаваў аб'ёмную працу, прысвечаную апісанню сабору 1680 г. пад назвай «Colloqium Lubielskie»[20], дзе распісаў усе свае захады і захады папярэднікаў па ўмацаванні царкоўнага адзінства. На партрэце Ц. Жахоўскага 1681 г. на заднім плане можна заўважыць яго «Colloqium Lubielskie», які мастак палічыў вартым размясціць разам з творамі такіх аўтараў, як Васіль Вялікі, Тамаш Аквінскі і Ян Златавусны (гл. Ілюстрацыю 1).

Менавіта ў такіх умовах – пасля фактычнай паразы унійнай справы на Піншчыне і безвыніковага Люблінскага сабору – Ц. Жахоўскі вырашыў прыступіць да генеральнай візітацыі цэркваў Кіеўска-Віленскай епархіі.

Ва ўказе Ц Жахоўскага называюцца асобы, што павінны праводзіць візітацыю цэркваў Мінскага сабору 1682 г. Гэта слонімскі і парэцкі пратапоп Марцыян Пятровіч, генеральны візітатар, і святар царквы ў в. Пагарэлае Мінскага пав. Самуэль Загароўскі, памочнік і, хутчэй за ўсё, – пісар. Паводле інфармацыі з актавых кніг Слонімскага земскага суда Марцыян Пятровіч ў 1668–1690 гг. з'яўляўся парафіяльным святаром цэркваў у в. Высацк і Дзераўная[21]. М. Пятровіч, відавочна, з'яўляўся пратэжэ мітрапаліта, бо ў 1676 г. з рук апошняга атрымаў прызначэнне на пасаду святара царквы Св. Тройцы ў г. Слоніме, месца не толькі пачэснае і прыбытковае, але і адказнае[22].

Візітацыю цэркваў Навагрудскага сабору 1680–1681 гг. праводзіў пісар Навагрудскага сабору, святар царквы ў в. Сенна Аляксандр

[18] Тамсама. С. 246.

[19] Цыт. паводле: Коялович М.О. Литовская церковная уния. Т. II. СПб.: Типография духовнаго журнала «Странник», 1861. – С. 234.

[20] Тамсама. – С. 230.

[21] НГАБ. – Ф. 1785. – Воп. 1. – Спр. 42. – Арк. 4, 114; НГАБ. – Ф. 1785. – Воп. 1. – Спр. 46. – Арк. 27.

[22] НГАБ. – Ф. 1774. – Воп. 1. – Спр. 3. – Арк. 990 адв.

Валасовіч. Прамых сведчанняў аб гэтым няма. Але пад 12 кастрычніка 1680 г. у візітах маецца цікавы запіс. Пры візітаванні Сенненскай царквы пісар адзначае, што «вялебны айцец Габрыэль Валасовіч, сын айца пісара, да вяртання з візіты айца пісара жыве пры Сенненскай царкве і ў бацькоўскай плябаніі»[23]. Ёсць яшчэ адно ўскоснае пацвярджэнне таго, факта, што візітацыю праводзіў менавіта А. Валасовіч. У візітах цалкам працытаваны тэкст толькі аднаго царкоўнага фундуша, які знаходзіўся на момант візітацыі ні ў каго іншага, як у пісара Навагрудскага сабору, г. зн. у таго ж Аляксандра Валасовіча[24].

Як бачым, Ц. Жахоўскі даверыў правядзенне візітацыі прадстаўнікам белага кліру, а не больш адукаваным базыльянам, з якімі мітрапаліт меў складаныя стасункі.

## 1.4. Структура візітаў

Варта адзначыць, што самая ранняя з дайшоўшых да нас візітаў цэркваў Кіеўска-Віленскай епархіі датуецца 1666 г.[25] Гэты дакумент адзінкавы. Найбуйнейшы сучасны даследчык інстытута візітатарства уніяцкай царквы ўкраінскі гісторык І. Скачыляс сцвярджае, што іншых пісьмова занатаваных да 80-х гг. XVII ст. візітаў Кіеўска-Віленскай епархіі не захавалася. Больш падрабязна пра асаблівасці правядзення генеральных візітацый у 1596–1720 гг. гл. працы названага даследчыка[26].

Такім чынам, мы са шкадаваннем вымушаны канстатаваць, што параўнанне структуры складання візітаў 1680–1682 гг. з больш раннімі аналагамі немагчыма ў сілу адсутнасці апошніх.

Агулам візітамі 1680–1682 гг. ахоплены 212 цэркваў і 104 капліцы. Гэта амаль уся тэрыторыя Мінскага і Навагрудскага паветаў (за выключэннем праваслаўных «анклаваў»), значная частка Ашмянскага, невялікая прастора ў Аршанскім і Рэчыцкім паветах, адзінкавыя цэрквы

[23] НГАБ. – Ф. 136. – Воп. 1. – Спр. 42042. – Арк. 69 адв.

[24] Тамсама. – Арк. 62 адв.

[25] М(алышевский) Н. Заметка о визитах как хранилищах исторических сведений и документов (на память о митрополите Иосифе) // Литовские епархиальные ведомости. – 1869. – № 10. – С. 658.

[26] Напрыклад: Скочиляс І. Генеральні візитації в українсько-білоруських єпархіях Київської уніатської митрополії. 1596–1720 роки // Записки наукового товариства імені Шевченка. Т. CCXXXVIII. Праці Історично-філософської секції. Львів, 1999. – С. 46–94; Скочиляс І. Генеральні візитації Київської унійної митрополії XVII–XVIII століть. Львівсько-Галицько-Кам'янецька єпархія. Т. 2: Протоколи генеральних візитацій. Львів: Видавництво Українського Католицького Університету, 2004. – CCVIII+512 с.



і капліцы ў Слонімскім павеце і Полацкім ваяводстве. Маюцца ўзгадкі аб вялікай колькасці населеных пунктаў (каля 1400).

Структура раздзелаў візітаў Навагрудскага і Мінскага сабору адрозніваецца нязначна. Яна ўтрымлівае ў сваёй большасці стандартны набор раздзелаў:

1. Дата візітацыі.

Візіты Навагрудскага сабору і Бабруйскай пратапопіі маюць дакладную даціроўку. Візіты Мінскага сабору за рэдкім выключэннем не маюць пазнак, якія б сведчылі аб часе іх складання. Але ў тэксце трапляецца інфармацыя, якая дазваляе сцвярджаць, што складаліся яны пазней, чым 1680–1681 гг.

Храналогія правядзення візітацыі па пратапопіях выглядае наступным чынам:

Навагрудская – 20 верасня – 12 кастрычніка 1680 г.;
Цырынская – 18 кастрычніка – 9 лістапада 1680 г.;
Нясвіжская – 10 лістапада – 4 снежня 1680 г.;
Клецкая – 6 снежня 1680 г. – 1 студзеня 1681 г.;
Даўгінаўская – студзень 1682 г.;
Бабруйская – 5–11 лютага 1682 г.;
Пухавіцкая – люты 1682 г.;
Блонская – люты-сакавік 1682 г.;
Мінская – не раней за сакавік 1682 г.;
Лагойская – не раней за сакавік 1682 г.;
Мядзельская – не раней за сакавік 1682 г.;
Ігуменская – не раней за сакавік 1682 г.;
Барысаўская – не раней за сакавік 1682 г.

Устанаўленне часу складання дакументаў у асобных выпадках ускладняецца пісарскімі памылкамі. Так, пры апісанні царквы ў в. Возера Мінскага пав. стаіць дата 31 лютага. Паколькі 1682 не з'яўляецца вісакосным годам, то можна дапусціць, што мелася на ўвазе 3 сакавіка.

Даты пададзены паводле грыгарыянскага календара – на перадапошняй старонцы візітаў побач з датай: «1 студзеня 1681 года» маецца заўвага «па-новаму»[27]. Гэта цікавая адметнасць, паколькі ва уніяцкім справаводстве таго часу, як правіла, выкарыстоўваўся юліянскі календар.

Каб пазбегнуць блытаніны неабходна ўлічваць і спецыфічнае пазначэнне лацінскіх назваў месяцаў: 7bra – *Septembra* – верасня; 8bra – *Octombra* – кастрычніка; 9bra – *Novembra* – лістапада; 10bra альбо Xbra

[27] НГАБ. – Ф. 136. – Воп. 1. – Спр. 42042. – Арк. 107.

– *Decembra* – снежня.

2. Назва і тытул царквы.

Пры апісанні цэркваў Мінскага сабору ў загаловак вынесена назва населенага пункта (у месным склоне), імя і прозвішча калятара (альбо назва ўстановы-землеўласніка). Далей падаецца тытул царквы, імя і прозвішча святара, які «знаходзіцца пры ёй». Пры апісанні цэркваў Навагрудскага сабору (а таксама Бабруйскай пратапопіі) ў загаловак вынесена толькі назва населенага пункта і дата візітацыі. Далейшы тэкст пачынаецца з наступнай фармулёўкі: *«Вялебны ў Богу айцец …, прэсвітэр …-скі, трымае царкву… фундацыі іх міласцей паноў …»*

Тытул цэркваў у некаторых выпадках не пазначаны ўвогуле. Гэта яшчэ ў большай ступені датычыць капліц. З культам Хрыста звязаны тытулы 41 храма, а з марыйным культам – цэлых 79. Суадносіны паміж колькасцю цэркваў пад рознымі тытуламі гл. у Дадатках у табліцы 6.3.

3. Агульнае апісанне царкоўнага будынку.

Пры апісанні цэркваў Мінскага сабору гэты падраздзел альбо адсутнічае ўвогуле, альбо падаецца напрыканцы дакумента і абмяжоўваецца некалькімі словамі, напрыклад, «сама царква драўляная». Цэрквы Навагрудскага сабору і Бабруйскай пратапопіі маюць больш поўнае апісанне будынку. Пазначаны матэрыял, стан захаванасці – новая, спарахнелая, нядаўна пастаўленая, на каменным падмурку, добра альбо кепска накрытая і г.д., адзначана наяўнасць бабінца, званіцы, цвінтара, шпіталя, зрэдку агароджы і г. д. Пры апісанні будынка царквы ў м. Пухавічы Мінскага пав. маецца ўзгадка пра купалы – «пад трыма купаламі»[28].

4. Апісанне іканастаса і захаванасці Святых Дароў.

Чарговасць апісання іканастаса і Святых Дароў, на думку І. Скачыляса, з'яўляецца прыкметай пранікнення (альбо непранікнення) ва уніяцкае справаводства каталіцкіх нормаў[29]. Калі на першым месцы ў апісанні ўнутранага ўбранства царквы знаходзіцца іканастас – «багаслоўе ў колерах» – гэта яскравая прыкмета захавання традыцый ўсходняй царквы, калі ж на першых пазіцыях фігуруюць Святыя Дары, то гэта ўплыў посттрыдэнцкага заходняга хрысціянства, які рабіў акцэнт на выключнай важнасці Еўхарыстыі ў літургіі.

Візіты Мінскага і Навагрудскага сабору ў гэтым пункце маюць

[28] НГАБ. – Ф. 136. – Воп. 1. – Спр. 42042. – Арк. 37 адв.

[29] Скочиляс І. Генеральні візитації в українсько-білоруських єпархіях Київської уніатської митрополії. 1596–1720 роки // Записки наукового товариства імені Шевченка. Т. CCXXXVIII. Праці Історично-філософської секції. Львів, 1999. – С. 66–67.



амаль дыяметральную супрацьлегласць. Цэрквы Навагрудскага сабору, Бабруйскай пратапопіі, а таксама царква ў в. Возера Мінскага пав. (візіты ўсіх гэтых храмаў складзены Почыркам № 5) на першым месцы маюць апісанні іканастаса альбо канстатацыю яго адсутнасці. Пры апісанні астатніх цэркваў на першым месцы значыцца Святая Еўхарыстыя.

Іканастасы ў візітах маюць лаканічнае апісанне – як правіла, некалькі слоў. Найбольш распаўсюджаныя характарыстыкі: «дастаткова ўпрыгожаны», «паводле канонаў Святых Айцоў», «абразы на сваіх месцах» і інш. Больш канкрэтныя апісанні сустракаюцца радзей: «старасвецкага малявання», «новы», «маляваны на палатне», і інш. Аб тым, што іканастас успрымаецца як неад'емная частка аздаблення уніяцкага храма, сведчыць наступны факт. Пад 24 лістапада 1680 г. узгадваецца новая «прыгожая» царкваПератварэння Божага ў г. Нясвіжы. Асабліва адзначана, што новы іканастас знаходзіцца ў працэсе пабудовы коштам нясвіжскага бурмістра.

Разам з тым, у планіроўцы уніяцкіх храмаў пачынаюць з'яўляцца бакавыя алтары – запазычанне з традыцый Заходняй царквы. Наяўнасць бакавых алтароў адзначана ў цэрквах м. Даўгінава, м. Вілейка, в. Спягла Ашмянскага пав. У царкве м. Маладзечна Мінскага пав. знаходзіўся «брацкі бакавы алтар» – пабудаваны, відавочна, коштам братчыкаў.

Большай падрабязнасцю вылучаецца апісанне абразоў. Асабліва гэта тычыцца абразоў цудатворных. Асноўная ўвага, што праўда, надавалася не самому абразу, а ватыве – ахвяраванням на яго. Зрэдку адзначаўся матэрыял, на якім намаляваны абраз – дрэва, палатно альбо папера. Цікавая асаблівасць – у царкве Св. Тройцы ў Мінску знаходзіўся абраз Блажэннага Язафата Кунцэвіча[30], што сведчыць аб наяўнасці яго культу ў тыя часы.

Нават цэрквы з цудатворнымі абразамі мелі невялікую колькасць ватывы. Выключэнне складае пэўная колькасць храмаў (усе Навагрудскага сабору), напрыклад, у м. Новы Свержань Навагрудскага пав. Паводле візіты, ватыва на новасвержанскім абразе Збавіцеля складалася са 104 срэбных таблічак рознай велічыні. У тэксце візіты Забяльскай царквы Навагрудскага пав. распісаны захады па пераплаўцы часткі ватывы ў срэбную дараносіцу і крыж.

[30] *Кунцэвіч Язафат* (1580–1623) – полацкі уніяцкі архіепіскап. Распаўсюджваў уніяцтва на тэрыторыі сваёй епархіі. Забіты праваслаўнымі жыхарамі г. Віцебска. 16 траўня 1643 г. прылічаны да ліку блажэнных каталіцкай царквы. 22 красавіка 1867 г. абвешчаны святым.

Для захавання запасных Святых Дароў канонамі была прадугледжана спецыяльная ёмістасць – дараносіца з золата альбо срэбра. На практыцы ж у большасці выпадкаў для гэтых мэтаў служылі дараносіцы валавяныя. Бадай, самай багатай з’яўлялася срэбная вызалачаная ёмістасць для Святых Дароў у выглядзе «галавы трупа» – чалавечага чэрапа – асабістая ўласнасць святара царквы ў м. Валеўка Навагрудскага пав. Цімоха Левановіча.

У царкве в. Суляцічы Навагрудскага пав. паралельна захоўвалася два віды Святых Дароў – «грэцкія» (прасфоры) і «рымскія» (гостыі).

У некаторых бедных цэрквах у якасці дараносіц выкарыстоўваліся тыя ж самыя паціры (келіхі), з якіх адбывалася прычашчэнне вернікаў, альбо нават сталовыя ёмістасці для солі – сальнічкі. Так было ў г. Барысаве, м. Крупкі Аршанскага пав., у м. Блонь і в. Пухавічы Мінскага пав.

5. Царкоўнае начынне.

Царкоўнаму начынню ў час візітацыі надавалася самая пільная ўвага. Ва ўсялякім разе яго апісанне складае найбольшы працэнт ад агульнага аб’ёма тэкста. Да ліку царкоўнага начыння адносілася мноства вырабаў з тканіны: абрусы, воздухі, пакроўцы, ілітоны, ручнікі, хусткі, харугвы, заслонкі перад абразамі, сукні для накрыцця нябожчыкаў у час адпявання і інш. З тканіны вырабляліся таксама такія важныя элементы начыння, як антымінсы і заслоны перад алтарамі. Да ліку «працоўных прыладаў» святара можна аднесці кадзільніцы і падсвечнікі (медныя, латунныя, бляшаныя альбо драўляныя). У некаторых цэрквах адзначана наяўнасць драўляных і срэбных крыжоў, а таксама свечак, што належалі братчыкам.

Асобна адзначалася наяўнасць званоў, алтаровых званочкаў, кляпадлаў, літургічнага посуду і адзення. Акрамя неабходнага для прыгатавання Еўхарыстыі посуду – паціра, дыскаса, звяздзіцы і лыжачкі – у тэксце ўзгадваюцца мірніцы (ёмістасці для захавання Святога Міра і алею), кацялкі для свянцонай вады, ампулкі. Сярод відаў адзення адзначаны: рызы з епітрахілямі і поручамі, фелоні (арнаты), стыхары, альбы, гумералы, паясы і інш.

Багатым убранствам вылучаліся тыя нешматлікія храмы, якія не былі абрабаваны (альбо ўвогуле разбураны ці спалены) маскоўскімі і казацкімі войскамі ў 1654–1667 гг. Да ліку іх адносіцца, напрыклад, царква ў г. Ляхавічы Навагрудскага пав. – аднаго з нямногіх гарадоў, што вытрымалі маскоўскую аблогу.

Акрамя «маскоўскіх» рэчаў і «Маскоўшчыны» (гл. далей **Асноўныя асаблівасці візітаў**) ў тэксце ўзгадваецца яшчэ некалькі катэгорый прадметаў так ці іначай звязаных з этнонімамі. Іх няшмат. Гэта рознага кшталту ювелірныя вырабы, упрыгожаныя «чэшскімі» дыяментамі, якія сустракаліся пры многіх цэрквах – крыжыкі, кулончыкі, бранзалеты, завушніцы. У царкве в. Суляцічы Навагрудскага пав. былі адзначаны завушнічкі «шоцкія». «Шоты» альбо «шкоты» – назва шатландскіх эмігрантаў, што аселі ў Рэчы Паспалітай і займаліся пераважна дробным гандлем. Гэтыя завушнічкі, хутчэй за ўсё, і былі набытыя ў шоцкіх гандляроў.



Да ліку этнонімаў у той ці іншай ступені можна аднесці эпітэты, якімі было прынята называць два хрысціянскія абрады – усходні «грэцкі» і заходні «рымскі». У дачыненні да мовы напісання некаторых літургічных кніг ужываліся азначэнні «руская» (царкоўнаславянская) альбо «польская».

Многія цэрквы начыння не мелі ўвогуле. Асабліва вялікая колькасць такіх храмаў была ў Мінскім пав., які моцна пацярпеў у час вайны 1654–1667 гг. У в. Ігрушка Аршанскага пав. царкоўнае начынне схаваў і не дазволіў апісваць сам святар Дзяніс Акаловіч. Матывацыю такога ўчынка патлумачыць цяжка. Магчыма, айцец Дзяніс, як і многія іншыя святары, падчас падзеяў 1654–1667 гг. пакінуў унію і нават у 1682 г. не пажадаў падпарадкоўвацца уніяцкаму кіраўніцтву.

Ніякага начыння не мелі амаль усе капліцы. Як правіла, адзначалася, што святар прыязджае да капліцаў са сваім начыннем.

6. Кнігазборы.

Адной з асноўных функцый храмаў было збіранне і захаванне літургічнай літаратуры. Аб’ёмы царкоўных кнігазбораў у 1680–1682 гг., як сведчаць візіты, былі невялікімі. Рэдкая царква мела больш за дзесятак асобнікаў. Гэта тлумачыцца тым, што ў многіх святароў былі ўласныя кнігі, абсалютная большасць якіх не фіксавалася ў візітах. З 212 цэркваў наяўнасць прыватных святарскіх кнігазбораў адзначана пры 77. Цікава, што асноўная маса з іх прыпадае на цэрквы Мінскага сабору (68 з 77), дзе аб’ём і змест прыватных кнігазбораў не фіксаваўся ўвогуле. Па цэрквах жа Навагрудскага сабору склад святарскіх кнігазбораў у большасці выпадкаў раскрываўся. Увогуле ў візітах згадана 763 асобнікі 20 асноўных назваў кніг. Падрабязныя падлікі пададзены ў Дадатках у табліцы 6.6.

На фоне кепскай забяспечанасці літургічнай літаратурай вылучаецца царква ў в. Сенна Навагрудскага пав., святаром якой з’яўляўся пісар Навагрудскага сабору і генеральны візітатар цэркваў

Навагрудскага сабору Аляксандр Валасовіч. Сенненскі кнігазбор складаўся з 26 кніг.

Пры цэрквах Навагрудскай пратапопіі даволі часта сустракаюцца «пісаныя ўставам» Евангеллі. Гэта, хутчэй за ўсё, плён дзейнасці старажытнага Лаўрышаўскага манастыра, які знаходзіўся на тэрыторыі пратапопіі. Асаблівую цікавасць уяўляе апісанне Евангелля з кнігазбору царквы ў в. Ваўкавічы Навагрудскага. пав. Яно пралівае святло на паходжанне знакамітага помніка беларускага пісьменства XVI ст. – т. зв. «Ваўкавыскага евангелля», што зберагаецца ў бібліятэцы Акадэміі Навук Літвы ў Вільні. Частка даследчыкаў лічыць, што адна з інскрыпцый аб святары «церкви Волковицкой», паводле якой паходжанне Евангелля прывязалі да г. Ваўкавыска, была неправільна патлумачана, а паходжанне кнігі належыць звязваць з Ваўкавічамі. На карысць гэтага меркавання сведчыць і інфармацыя з візіты.

7. Плябанія і царкоўныя ўладанні.

Апісанне плябаніі абмяжоўваецца простым пералікам жылых і гаспадарчых пабудоў. Да ліку першых адносіцца ўласна хата з сенямі, каморай і пякарняй. У візітах адзначаны хаты двух тыпаў: белая і чорная. Іх адрознасць, відавочна, палягае ў спосабах ацяплення. Печы ў «курных» хатах, якія тапіліся па-чорнаму, не мелі комінаў – дым выходзіў проста ў памяшканне, а потым у вакно. Трэба адзначыць, што чорныя хаты ў святарскіх плябаніях адзначаюцца крайне рэдка і ўспрымаюцца хутчэй як выключэнне. Пералік гаспадарчых пабудоў таксама невялікі: хлявы, аборы, пуні, гумны, асеці, стайні, лазні і бровары. Будынкі амаль заўсёды драўляныя, зрэдку «храсцяныя» – плеценыя з галля альбо хмызняку накшталт плятня.

Адной з асноўных задач, якія ставіў перад візітатарамі Ц. Жахоўскі, было высвятленне стану фундушоў – дакументаў на права валодання маёмасцю. Арыгіналы фундушоў большасці цэркваў згарэлі, частка захоўвалася ў мітрапаліцкім архіве, частка – у калятараў. У выпадку, калі арыгінал па той ці іншай прычыне быў страчаны, візітатар загадваў святару распачаць судовы працэс аб яго ўзнаўленні.

У адрозненне ад візітаў XVIII ст. фундуш апісваецца лаканічна, без пазначэння даты выдачы, а то і без узгадкі прозвішча фундатара. Анатацыя зместу альбо вытрымкі не прыводзяцца. Выключэнне складае толькі фундуш царквы ў в. Валеўка Навагрудскага пав., нададзены Крыстынай Масальскай 20 ліпеня 1620 г., які цалкам працытаваны.

Згодна з тэкстам візітаў, фундушы давалі святарам права на тры асноўныя крыніцы дабрабыту: зямельныя ўладанні (амаль у кожнай



царквы паўтары-дзве валокі), пляцы, на якіх будавалася плябанія альбо «садзіліся» агароднікі, і прыгонныя сяляне. Пляцы меліся пераважна ў гарадскіх і местачковых цэркваў. Так, на пляцах Мінскай Уваскрасенскай царквы сядзела 8 агароднікаў, Ляхавіцкай царквы Навагрудскага пав. – 6, Мірскай царквы Навагрудскага пав. – 5, Сталовіцкай царквы Навагрудскага пав. – 4. Працэнт цэркваў, пры якіх меліся ўласныя прыгонныя альбо агароднікі, быў даволі вялікім. Як вынікае з тэкста візітаў з 212 цэркваў прыгонныя былі ў 45 (альбо 21,2 % ад агульнай колькасці). Усяго ў тэксце ўзгадваюцца 123 прыгонныя дымы. Іх размеркаванне па пратапопіях выглядае наступным чынам:

Навагрудская – 33 дымы; Даўгінаўская – 23; Цырынская – 20; Барысаўская – 16; Мінская – 11; Нясвіжская – 11; Клецкая – 5; Мядзельская – 3; Лагойская – 1. Бабруйская, Блонская, Ігуменская і Пухавіцкая пратапопіі не мелі ніводнага прыгоннага.

Памер паншчыны ў тэксце ўзгаданы толькі аднойчы. Пры візітаванні царквы ў в. Шчорсы Навагрудскага пав. адзначана, што адзін з пяці прыгонных служыць пры храме званаром і адрабляе паншчыны тры дні на тыдзень.

У фундушы царквы ў м. Валеўка Навагрудскага пав. ад 20 ліпеня 1620 г. калятарка Крыстына Масальская піша, што яе падданыя будуць адрабляць на карысць святара паншчыну з разліку 1 дзень на год з 1 валокі зямлі. Магчыма, падобныя правілы (для цэркваў без уласных прыгонных) дзейнічалі не толькі ў Валеўцы.

Зусім рэдка фундушы агаворвалі грашовыя ахвяраванні калятараў на карысць царквы. Напрыклад, калятар Ян Аколаў ахвяраваў царкве ў в. Акаловічы Навагрудскага пав. 500 злотых.

8. Парафія.

Адным з важных элементаў візітацыі было фіксаванне разлегласці парафіі і колькасці парафіян. Агулам у тэкстах візітаў узгадваецца каля 1400 населеных пунктаў. У абсалютнай большасці падаваўся іх просты пералік з агульнай лічбай душ вернікаў. Да гэтай інфармацыі трэба ставіцца асцярожна – у большасці выпадкаў пададзены круглыя лічбы, што наводзіць на думку аб іх недакладнасці.

Парафіі уніяцкіх храмаў 1680–1682 гг. рэдка абмяжоўваліся адной толькі вёскай ці мястэчкам, у якім знаходзілася царква. У гэтым палягае істотная адметнасць ад сеткі уніяцкіх парафій на ўкраінскіх землях, дзе прыход царквы складала, як правіла, адно паселішча[31].

[31] Скочиляс І. Генеральні візитації в українсько-білоруських єпархіях Київської уніатської митрополії. 1596–1720 роки // Записки наукового товариства імені Шевченка.

